**Год VII. Ліпень-Жнівень № 8-9 (81-82).**

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 8-9:



**УВАГА! Хто йшчэ хоча прыслаць сваё апаведаньне на літаратурны конкурс „Шляху Моладзі“ няхай з гэтым пасьпяшыцца. Апошні тэрмін прысыланьня 30-га верасьня сёлета. За найлепшыя апавяданьні будуць прызнаны нагароды кніжкамі: I—на 50 зл., II—на 30 зл., і III—на 20 зл**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |



# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода—1 зл., на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1935 г. | № 8-9 (81-82). |
| --- | --- | --- |

## *U 30-ja ŭhodki litaraturnaje tvorčaści J. Kupały*

*Vialiki i słaŭny naš biełaruski pieśniar Janka Kupała sioleta śviatkuje 30-ja ŭhodki svajej litaraturnaj tvorčaści. Pisać ab Im u sučasny mament vielmi ciažka. Dziela hetaha i dziela ŭšanavańnia sioletniaha Jahonaha jubileju, jaki prypadaje ŭ letniuju paru Jahonaha žyćcia, źmiaščajem nižej try Jahonyja vieršy, adpaviednyja i da ŭračystaści, i da času, i da sučasnaha žyćcia biełaruskaha Narodu. — Red.*

### LETA

Ech ty, leta haračaje, burnaje!
Ažyŭlaješ ty pole i łuh.
Luba, dumki pakinuŭšy chmurnyja,
Na śviet vyjšci dy hlanuć vakruh.
Šum staić nad lasistaj dubrovaju,
Byccam rada ab niečym idzie;
Rečka, ŭ prysadź schavaŭšyś alchovuju,
Burlić; rybka pluskoča ŭ vadzie.
Ŭ zbožža ŭsiakaje niva prybrałasia —
Charastva tam jakoha niama! —
Jak zialony dyvan, raspłastałasia;
Šopat niejki pływie ad žytca
Kołas z kołasam hutarku dziŭnuju
Zaviali, by na chmary złujuć;
Pieśni žavarankaŭ pieraliŭnyja
Zamarkociacca, spać nie dajuć.
A łuhi, a humniščy, asielicy?..
Voś abniaŭ, prytuliŭsia, lažy...
Chto z vas, chto nia lubici aśmielicca
Ŭletku śviet ad miažy da miažy?..
Daj ža, leta, mnie vieru mahučuju,
Što kališ svaju dolu najdu,
Daj mnie pieśni pieć siłu žyvučuju,
Daj pracivicca kryŭdzie i złu!

### ZA PRAŬDU

Za praŭdu, za ščaście, za lepšuju dolu
Vaźmisia, moj druža, pastoj!
U kryŭdu nia dajsia, svajho dabivajsia,
Advaha chaj budzie z taboj!

Chaj horkija ślozy, što ŭ śpieki, ŭ marozy
Lijucca na biednaj ziamli,
Daduć tabie, bracie, sił hora zmahaci
I ŭ sercy raspalać ahni.
Choć vichry šalejuć, choć pieśni niamiejuć,
Choć strašna zamučany ty,
Za dobruju spravu, za ščaście i słavu
Dušu vyryvaj z ciemnaty.
Kiń svarki i zvadki, adnej dzieci matki —
My złučany dumkaj adnej;
Pry zhodzie i ładzie ŭ nas dola zasiadzie,
Paličać i nas za ludziej.
Dyk žyva-ž k pačatku — nia čas spać u šapku,
Valacca, jak červi ŭ travie;
Ŭžo soniejka ŭschodzie, ŭžo duch u narodzie
Zbudziŭsia i k praŭdzie zavie!...

## LETA

Leta ty, leta pryhoža-kviacistaje,
Kolki ty ŭnosiš azdoby z saboj!
Ciahnucca strojna šnury kałasistyja,
Pachnie pavabna trava nad rakoj. —

Hnucca na łuzie kascy niemarudnyja,
Dzie-niedzie ŭ postaci sierp zaskakaŭ,
Pieśnia pačułasia nasskaja, nudnaja;
Recha panieslasia — bor adkazaŭ.

Šum pakaciŭsia ad lesu adzietaha;
Sonca kupajecca ŭ połysku ros;
Ech! kab zdajecca, ščaście da hetaha!
Ech, kab, zdajecca, mienš hora i śloz!..



# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## X. Нарадзіны ідэі сувэрэннай Беларусі.

### § 1. Усебеларускі Кангрэс у 1917 г.

Прад тым, як прыступіць да разгляду Усебеларускага Кангрэсу і яго адносінаў да справы палітычнага вызваленьня Беларусі, у кароткіх і агульных славах прыпомнім сказанае ў папярэднім разьдзеле гэтай працы. Сутнасьць там сказанага вось у чым.

Як некалі вялікая француская рэвалюцыя, а пасьля выплыўшыя з яе іншыя рэвалюцыі ў Эўропе, узбудзілі многія эўропэйскія паднявольныя народы да палітычнага вызваленьня і да будаваньня сваей дзяржавы, так вялікая сусьветная вайна і вялікая расейская рэвалюцыя вызвольны рух розных народаў узмацавала яшчэ больш, будзячы да незалежнасьці народы дагэтуль паднявольныя. Вызвольная гэта хваля дакацілася й да Беларусі, будзячы й яе да вольнага, незалежнага жыцьця. Аднак ідэя вызваленьня Беларусі не адразу прымае формы поўнай, сувэрэннай, нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці. Беларускія і небеларускія палітыкі пад нямецкай окупацыяй у Вільні, як мы бачылі, многа ўжо дабіваюцца і прызнаюць Беларусі палітычнай самастойнасьці, але аб Беларусі, як незалежнай і нацыянальнай дзяржаве яшчэ не гавораць. Сутнасьць іх палітычных імкненьняў — гэта аўтономная ці фэдэрацыйная Беларусь і такая-ж Літва, пад сувэрэннай літоўска-беларускай уладай. Дзеячы гэныя будаваньня беларускай палітычнай незалежнасьці на беларускім самастойным нацыянальным прынцыпе яшчэ не разумелі, ці прынамсі цалком не ўяўлялі.

І гэта было ў беларусаў тады, калі літоўцы, усьведаміўшы сабе ўва ўсей паўнаце прынцып нацыянальны, прыступілі да будаваньня нацыянальнай і сусім самастойнай Літвы. У выніку беларуска-літоўскіх адносінаў было тады стварыўшыся дужа арыгінальнае палажэньне: беларусы навязвалі Літве супольную фэдэрацыю, намаўлялі іх узнавіць даўнейшую супольную дзяржаву, а літоўцы ад гэтага адмаўляліся. Было гэта, як бачым, прыкрае непаразуменьне, якое вынікала з няроўнай ступені ўсьведамленьня ў беларусаў і літоўцаў прынцыпу нацыянальнасьці.

Узноў-жа беларускія палітыкі ў Расеі ня толькі за часоў царызму, але нават у пачатку рэвалюцыі, бадай на працягу яшчэ ўсяго 1917 г., не маглі ўцяміць ідэалу Беларусі, як самастойнай нацыянальнай дзяржавы і яшчэ праз некаторы час пашыралі думку аб аўтаномнай Беларусі ў фэдэрацыйнай лучнасьці з Расеяй.

Зваротным у гэтай справе пунктам у бок беларускай сувэрэннай Беларусі, як нацыянальнай адзінкі, быў Усебеларускі Кангрэс. Так, як некалі «Гомон» зрабіў рашучы пераход ад традыцыяў Вял. Кн. Літоўскага да фэдэрацыі з Расеяй, так Усебеларускі Кангрэс быў пераходным пунктам, ад ідэалу фэдэрацыі з Расеяй да ідэі незалежнай Беларусі.

У Менску, у кастрычніку месяцы 1917 г., пасьля якіх 9—10 месяцаў рэвалюцыі, з розных беларускіх — цывільных і вайсковых — арганізацыяў паўстала «Вялікая Беларуская Рада», якая кіравала ўсім палітычным беларускім жыцьцём. Гэта-ж Вялікая Рада і склікала Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся 5—17.XII (стар. стылю) 1917 г. у Менску. Было на ім 1167 дэлегатаў з голасам рашаючым ад розных беларускіх арганізацыяў і 705 з голасам дарадчым. На Кангрэсе былі прадстаўнікі ад усей Беларусі: з губ. Менскай, Магілеўскай, Віцебскай, Смаленскай, Віленскай і Горадзенскай. Апошнія дзьве губэрні, зкія знаходзіліся пад нямецкай окупацыяй, былі прадстаўлены бежанцамі.

Галоўны мамэнт Кангрэсу — гэта ў ночы з 17 на 18 сьнежня (ст. стылю). У гэтым часе была ўжо апрацавана рэзалюцыя і прэзыдыюм Кангрэсу прыступіў да яе адчытаньня. Першы пункт рэзалюцыі, які датычыў дзяржаўнага ладу Беларусі, быў гэткага зьместу:

«Замацоўваючы свае правы на самаазначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і прыймаючы рэспубліканскі дэмократычны строй на абшары Беларускай зямлі, для паратунку роднага краю і для забясьпечаньня яго ад разьдзелу і адлучэньня ад Расейскай Дэмократычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі, першы Усебеларускі Зьезд ухваляе: безадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнаю ўладаю».[1])

Пунктаў у рэзалюцыі было 15, агаласіць і прыняць пасьпелі толькі гэты першы аб дзяржаўным ладзе Беларусі, бо па агалашэньні першага пункту бальшавікі, якія тады ўладу над землямі быўшай царскай Расеі забіралі ў свае рукі, Усебеларускі Кангрэс разагналі сілай.

Затым, што разгон гэты мае гістарычнае значэньне для беларускага народу і што беларускі народ мала дагэтуль з гэтай справай абазнаны, пазваляю сабе тут памясьціць апісаньне навочным сьведкам акту разгону бальшавікамі Усебеларускага Кангрэсу, паданае ў «Вольнай Беларусі»[2]).

«Каля 3 гадзіны ўначы Рада зьезду скончыла апрацоўваць рэзалюцыю. Старшыня пачаў яе чытаць перад усім

1) Зборнік „Беларусь", Менск, 1924, бач. 199.
2) „Вольная Беларусь" № 36, 1917.

зьездам. У гэты мамэнт падыйшлі да стала прэзыдыюму два салдаты і назваўшы сябе, першы—камісарам «Заходнай Обласьці», а другі—начальнікам менскага гарнізону, сказалі, што прыйшлі арыштаваць прэзыдыюм і разагнаць зьезд.

Тады, пры іх-жа, старшыня зьезду агаласіў першы пункт рэзалюцыі, дзе Беларусь абвешчаецца Рэспублікай. Бадай што ўвесь зьезд аднастайна зацьвердзіў гэты пункт.

Раптам аднекуль пачуўся голас: Таварышы, наш дом акружаны войскам! Каля яго стаяць кулямёты і бранявікі!

У залі падняўся шум. Тагды зьвярнуўся да зьезду з прамовай «начальнік гарнізону» Крывашэін. Хістаючыся на нагах, крэпка выпіўшы, ён пачаў гаварыць. Але праз шум спачатку нельга было нічога разабраць. Толькі потым, як



**Паседжаньне Вялікай Беларускай Рады 15.X.1917,**
на якім пастаноўлена склікаць Усебеларускі Кангрэс.

трохі пацішэла, пачуліся бяззьвязныя фразы «начальніка», каторы гаварыў аб нейкіх «лайкавых перчатках». Кончыў ён сваю «прамову» вось як: «А теперь я распускаю ваше собраніе».

Пры гэтых славах у залю ўвайшлі ўзброеныя салдаты. Агульнымі сіламі іх выцягнулі за дзьверы і пасьля гукаў марсэльезы нехта галасна сказаў.

„Браты беларусы! Мы бачылі жандараў Мікалая II, але сягоньні мы ўбачылі жандараў у свабоднай рэвалюцыйнай старане, пад маскай бальшавіцкіх камісараў, на вольным зьезьдзе вольнага народу!“

Ізноў уварваліся салдаты, разьбіраючы барыкады з крэслаў і зэдлікаў, накіданыя дэлегатамі зьезду, сялянамі і салдатамі. Пад сьпевы жалобнага маршу выводзілі арыштаваны

прэзыдыюм і шмат каго з відных працаўнікоў зьезду. Арышт цягнуўся ўсю ноч. Прыклады працавалі направа і налева. Паволі пусьцела заля. Гасьлі лямпы. А ў цёмным кутку сядзеў адзінока сівы дзед-селянін. Плечы яго ўздрыгалі. Ён плакаў як дзіця.

Назаўтра, уначы, а 4 гадзіне разагналі Вайсковую Беларускую Раду».

А вось як гэту беларускую трагэдыю апісвае другі навочны сьведак, сябра прэзыдыюму Кангрэсу, П. Крэчэўскі:

«Калі бальшавікі ўбачылі — піша ён — што большасьць зьезду стаіць за самастойную рэспубліку, рашылі Зьезд разагнаць сілаю. Бальшавіцкія камісары — Крывашэін і Рэзаўскі — п'яныя (канстатую факт) зьявіліся ў залю зьезду якраз у тойсамы час, калі пасьля доўгіх дэбатаў, прыблізна каля часу ночы, меліся прыступіць да галасаваньня рэзалюцыі і абвесьцілі зьезд распушчаным, а прэзыдыюм арыштаваным. Будынак, дзе адбываўся Зьезд, быў акружаны бранявікамі і кулямётамі. Падняўся страшэнны гвалт, бальшавіцкія салдаты за стрэльбамі стараюцца ўварвацца ў залю зьезду, дэлегаты строяць барыкады з крэслаў і сваімі грудзьмі абараняюць зьезд і прэзыдыюм зьезду, які, ня гледзячы на забарону камісара, вядзе далей сход і галасуе рэзалюцыю»[1]).

Але ў чым-жа тут справа, зашто бальшавікі разагналі Кангрэс, які высказаўся за Беларусь сфэдэраваную з Расеяй? Добра на гэта адказвае П. Крэчэўскі, які кажа: „калі бальшавікі ўбачылі, што большасьць зьезду стаіць за самастойную рэспубліку, рашылі Зьезд разагнаць сілаю“[2]). Словам, для бальшавікоў было ясна, што словы аб фэдэрацыі ўстаўлены толькі з тактычных матываў, што фэдэрацыя гэта справа зусім другарадная, а галоўнае — поўнае самаазначэньне Беларусі, згодна з лёзунгамі рэвалюцыі і вайны, і прыкладам іншых народаў у кірунку дзяржаўнай сувэрэннай самастойнасьці. І сапраўды, ідэя палітычнай незалежнасьці Беларусі тады ўжо беларусам чужой ня была і толькі тактычныя мамэнты перашкаджалі, каб яе фармальна аб'явіць. „Усебеларускі Зьезд — піша Ант. Навіна[3]) — ня давёў дзяржаўнае справы да канца: ён затрымаўся на фэдэрацыі з Расеяй. І хоць між павадырамі беларускага руху ўжо тады ідэя незалежнасьці Беларусі мела даволі прыхільнікаў, — аднак яна была яшчэ мала спапулярызавана ў шырокіх народных масах, якія псыхолёгічна не маглі зразу вызваліцца ад уроку расейскае дзяржаўнасьці, тады яшчэ ня ўтраціўшай сваей сілы: на беларускай зямлі стаяла расей-

---

1) „Замежная Беларусь" бач. 52 53.

2) „ „ там-жа.

3) Ант. Навіна — Палітычныя лозунгі беларускага руху. (Зборнік Нашай Нівы. Вільня 1920). Бач. 12.

ская армія, з каторай бароцца беларусам было-бы не пад сілу, а ведама, што апавяшчэньне аддзяленьня ад Расеі выклікала б аружнае выступленьне маскоўцаў, разагнаўшых штыхамі Усебеларускі Зьезд нават за фэдэрацыю!»

Узноў-жа П. Крэчэўскі, навочны тагочасны сьведак, дзейны ўчасьнік як тагочаснай беларускай палітыкі ў Менску і такі-ж учасьнік у скліканьні і працы Кангрэсу, аб гэтай справе між іншым піша гэтак: „На Зьездзе змагаліся дзьве процілежныя групы — масквафільская і самастойна-незалежніцкая. За першай групай ішло Вітэбскае і Магілёўскае зямлячэства, за другой групай — Горадзенскае, Віленскае, Менскае і Смаленскае“[1]).

Урэшце той-жа П. Крэчэўскі аб гэтым кажа: „Белорусскій народ до сих пор боявшійся подумать даже о своей самостоятельности — шквалом великой россійской революціи был вынесен на вершину своего національного самосознанія и в пориве энтузіазма заговорил языком белорусса-гражданина, хозяина своей родной страны, еще неизуродованнаго ни польской, ни русской культурой, языком народа конституціоналиста XIV века и потребовал себѣ на Минском Всебелорусском Конгрессе с 5 по 17 декабря 1917 г. подобающаго места среди народов міра“[2]).

Такім чынам, як бачым, Усебеларускі Кангрэс, хоць фармальна яшчэ не сказаў „слоў Беларусь незалежная дзяржава“, то фактычна ён выдаў першыя зародкі гэтага ідэалу. Нарадзіны ідэі сувэрэннай Беларусі, як гэта яшчэ пабачым ніжэй, бязумоўна адносяцца да Усебеларускага Кангрэсу 1917 г.

## § 2. Рада Зьезду. Выканаўчы Камітэт. Народны Сакрэтарыят. Першая й другая ўстаўная граматы. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Тое, што беларусы ў часе Усебеларускага Кангрэсу ўжо ня толькі думалі аб незалежнай Беларусі, але думкі свае хацелі ў чын абярнуць, ясна відаць так-жа з наступнага.

Як толькі сабраўся Кангрэс, была ўтворана Рада Зьезду. Звалі яе так-жа Радай Старэйшых, Конвэнтам Сэньёраў[1]). Пасьля разгону Кангрэсу, яго дэлегаты 18.XII (старога стылю, новага 31) сабраліся ў жалезнадарожным дэпо і перадалі Радзе Зьезду паўнамоцтвы на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасьці. Рада Зьезду выбрала Выканаўчы Камітэт, якому і даручыла ўвесь цяжар беларускай дзяржаўнай працы. Гэта было пры бальшавіках, якія 19.II.18 г., ўця-

---

1) „Замежная Беларусь“ там-жа.

2) „Три акта“. („Белорусское Эхо“ № 7, 1918).

1) У Радзе было 71 месца, 27 мясцоў мелі быўшыя члены Рады Зьезду, прысутныя ў Менску, 9 — прадстаўнікі правінцыі, 10 — гарады і земствы; 15 — нацыянальным меншасьням: 7 — жыдом, 4 — палякам, 2 — вялікаросам, 1 — украінцам і 1 — літоўцам. (Зборнік „Беларусь“ бач. 201.

каючы ад немцаў, пакінулі Менск. 21.II.18 Выканаўчы К-т Рады Зьезду, выконваючы волю Зьезду, аб'явіў сябе найвышэйшай уладай у Беларусі і зьвярнуўся да насельніцтва ў наступнай першай устаўной грамаце „Да народаў Беларусі":

„Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі вайскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтономію. Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам склiканьня на дэмократычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да скліканьня Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Усебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмократыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзейсьніваючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму, на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і пропорцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і полам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі будзе зьдзейсьніваць створаны намі Народны Сакрэтарыят Беларусі, які з гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакрэтарыяту будзе апублікаваны пасьля. Дано ў Менску-Беларускім 21(8) лютага 1918 г. Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага Зьезду".

Зьмест граматы і стварэньне сакрэтарыяту, які фактычна быў першым беларускім урадам, ясна паказвае нам, што тут ішло дзяржаўнае будаваньне незалежнай Беларусі[1]).

25.II.18 г. Менск занялі немцы. Замест улады беларускай. прызнавалі яны далей на Беларусі ўладу расейскую. З гэтай прычыны Вык. К-т Рады Зьезду 9.III.18 выдаў другую ўстаўную грамату да народаў Беларусі, наступнага зьместу:

„У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцные дзержавы і аслабаняе другіе, абудзілася Беларусь да дзяржаўнаго жыцця. Пасьля трох с паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд

1) У Радзе моцна пачынаюць адчувацца незалежніўкія тэндэнцыі. Народны сакрэтарыят складаецца амаль што выключна з незалежнікаў. Выразна незалежніцкія думкі мы бачым у нотах, якія накіравала Рада на імя Вышэйшага Польскага К-ту, на імя камандзера польскага корпуса легіёнаў Доўбар-Мусьніцкага. Сувязь з Савецкай Расіяй яшчэ афіцыяльна не парвана, але яна з кожным днён зьмяншаецца.. (Зборнік „Беларусь" бач. 220).

5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад Выпаўняючы волю Зьезду і баронючы дзяржаўные правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1.—Беларусь у рубяжох разсялення і лічэбнай перавагі беларускаго народу абвешчаецца Народнаю Рэспублікай.

2.—Асноўные законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, склікaны на асновах агульнаго, роўнаго, простаго, патаемнаго і прапорцыянальнаго выборчаго права, ні зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.



**Народны Сакрэтарыят, або першы беларускі ўрад,**
які трываў ад 20.II.18 да 23.VII.18 г.

3.—Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, законодаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускаго Зьезду, дапоўненай прэдстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4.—Спаўняючая і адміністратыўная ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае атвет.

5.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўна вольнасьць сумленьня, нізачэпнасьць асобы і памешкання.

6.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе

народы маюць права на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію; абвешчаецца роўнае права усіх моваў народаў Беларусі.

7.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвешчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі устанаўляецца найбольшы 8 і гадзіновы рабочы дзень.

Абвешчаючы усе гэтые правы і вольнасьці грамадзян народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця у Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьць працоўнага люду. А так сама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часі Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і атветнай нашай працы. — Спаўняючы Камітэт Рады І-го Усебеларускага Зьезду. Выдана у Мінску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року."

Грамата гэта, як бачым, устанаўляе галоўныя пункты констытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Грамата гэта яшчэ выразьней гавора нам аб будове незалежнай беларускай дзяржавы. П. Крэчэўскі ў прыточваным вышэй артыкуле „Тры акты" кажа, што гэта грамата ёсьць „абвешчаньнем незалежнасьці Бел. Нар. Рэспублікі". Так яно сапраўды і было. Няма толькі аднэй фармальнасьці, няма яшчэ падкрэсьленьня непрызнаваньня над Беларусяй сувэрэнітэту Расеі, да якой Беларусь дагэтуль належыла. Але хутка ўжо прыйдзе і гэта фармальнасьць.

Пасьля гэтага так важнага палітычнага акту, Вык. К-т Зьезду, каб мець большую сілу, папоўніўся прадстаўнікамі земскіх і гарадз. самаўрадаў Беларусі, аддаючы ім 30% агульнага ліку месц. Адначасна з гэтым было паднята пытаньне аб пераіменаваньні Рады Зьезду на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, што й было прынята аднагалосна на адным з наступных паседжаньняў.[1])

---

ТРЫЯЛЕТ.

Чаго няма—ў людзей бяры,
Што лішнім ёсьць—людзём давай
І хоць-бы лёс свае дары
Сьцярог на сьмерць—з баёў бяры.
Стаўляй для духа аўтары
Ягону волю толькі знай!
Чаго няма — ў людзей бяры
Што лішнім ёсьць—людзём давай.

**Ўлад-Інцкі**

1) А. Цьвікевеч — Краткій очерк возникновенія Бѣл. Нар. Республики. Кіев. 1918. Бач. 13—14.

# Жніўныя абрады і звычаі Беларусаў

Абрады і звычаі, якія цесна зьвязаны з пачаткам і канцом палявых работ, сваім зьместам і формай сягаюць глыбака ў мінуўшчыну.

Тыя звычаі і абрады, аб якіх мы будзем тут гаварыць, з некаторымі адменамі ведамыя ўсім землябробскім плямёнам у мінуўшчыне і ў сучаснасьці усім народам, наўперад усходне-славянскім: Беларусам, Украінцам і Расейцам. Старадаўнасьць жніўных абрадаў мы можам сьцьвярдзіць у пісаных памятніках, пачынаючы з XII веку. У адным памятніку пісьменства, напр. у Ізмарагда з XIV в. выразна ўспамінаецца „праздновати зажинанью."

Гаворачы аб жніўных звычаях, трэба адначасна ўспомніць і яшчэ аб адным звычаі, які сваім характарам падобен да жніўных —гэта талака, якая ведамая ўсім славянскім народам. І гэта пераконвае нас аб старадаўнасьці гэтага звычаю, які, магчыма, бярэ свой пачатак з часоў першабытнага грамадзкага ладу, з часоў бясклясавага грамадзтва. Пад словам «талака» разумеем такую калектыўную працу, якую выконываюць бясплатна, а толькі за ўгашчэньне. Летам такімі работамі зьяўляюцца вывазка гною на поле, а таксама жыта-жніва. У часе працы і па сканчэньні адбываецца ўгашчэньне (разумеецца—з гарэлкай).

Песьні, якія лучацца з успомненымі работамі, пераважна апяваюць цяжар працы, яе характар. Знойдзем тут вялікую колькасьць і песень сямейнага характару, у якіх апяваецца сямейнае жыцьцё: адносіны сьвякроўкі да нявесткі, мачыхі да сіраты і г. п. Спатыкаюцца песьні і выразна фэодальнага характару: паганыя адносіны памешчыка і яго цівуноў да прыгоньнікаў і прыгоньніцаў.

Цыкль жніўных песень вельмі багаты колькасьцю і якасьцю. На Беларусі йшчэ й сяньня сьпяваюць жніўныя песьні. Найпрыгажэйшыя жніўныя песьні давялося мне чуць у паўночна-усходняй Віленшчыне: пав. Браслаўскім, Дзісьненскім, Пастаўскім і Вялейскім. Гэтыя песьні вельмі багатыя зьместам і глыбокія сваім музычным лірызмам.

Жніўныя звычаі можна падзяліць на тры мамэнты, якія як-бы складаюць у сваім зьмесьце тры акты: зажынкі, жніво і дажынкі. Найбагацейшы ў розныя абрады і звычаі гэта акт дажынкаў. Аднак і пры зажынках адбываюцца тыя ці іншыя звычаёвыя цэрэмоніі.

Зажынаць жыта звычайна выходзіць невялікая колькасьць жней, якая забірае з сабою хлеб з сольлю і сыр, а часамі і грамнічную сьвечку. У Меншчыне і Магілёўшчыне, зажынаючы, пяюць жнеі такую песьню:

„Дабрыдзень Гаспадару Богу,
„Жыту ядраному, хазяіну палявому!"

—Здароў, здароў, жнеі маладыя,
—Сярпы залатыя!“

Першую жменю зжатага жыта звязваюць стужкаю, або жытнім вязьмом (перавяслам), прыносяць дамоў і ставяць на покуцьці пад абразамі, гэты сноп называецца „гаспадар.“ Зжаўшы адну ніву і пераходзячы на другую, пяюць:

„Ніўка, ніўка!
Аддай маю сілку
На другую ніўку.
А я-ж цябе жала
І сілку спацерала,
Нашы жнейкі маладыя
Іх сярпы залатыя.“

Час між зажынкамі а дажынкамі сяньня ўжо не адзначаецца якімісь цікавейшымі звычаямі, ані на ніве, ані пры вяртаньні з поля. Затое дажынкі захавалі шмат цікавых мамэнтаў у сваіх звычаях і абрадах.

Амаль на ўсёй тэрыторыі, заселенай беларусамі, ёсьць такі звычай пры заканчэньні жніва: усе жнеі вяжуць сноп жыта, які называюць „бабай,“ — гэтая назова снапа паўсюдная ў Усходняй Беларусі. Гэты сноп часамі перавязываюць хусткай і надзяюць сарочку (кашулю). Нівы жнеі да канца не дажынаюць, а пакідаюць кусок, які называюць «гаспадаровай барадой,“ або „казлінай барадой.“ Сноп — „бабу“ заносяць дамоў гаспадару. У некаторых мясцовасьцях — гэта бывае часьцей — да гаспадара пажатага жыта жнеі прыходзяць з жытнім вянком і паясом. А таксама недажаты кусок жыта ўперад полюць, пасьля рвуць і завіваюць „бараду». Завіваюць яе толькі з самых калосьсяў, якія кладуцца ў сноп і ўплятаюцца ў вянок. Салому абарваную да гэтага выбраная жнейка кладзе накрыж на зямлі; на гэтым саламяным крыжы, на сярэдзіне і па бакох, кладуць хлеб. Часам недажатае жыта пакідаюць на полі птушкам і зьвяром, „бо яны ў Бога выпрасілі жыта і ад таго часу чалавек пазнаў хлеб...“ Ёсьць мясцовасьці, дзе некалькі каліваў жыта закопваюць у зямлю на ніве мышам.

Зрабіўшы вянок, кладуць яго на галаву прыгажэйшай і маладзейшай жнейцы і з прыгожымі жніўнымі песьнямі йдуць да хаты гаспадара. Гаспадар іх сустракае, кланяецца снапу або вянку, а ў гэты мамэнт адна з жнейкаў «віншуе» гаспадара, апаясвае яго вянком і аддае сноп. Гаспадар дорыць грошы і запрашае на ўрачыстую, багатую дажыначную вячэру, пасьля якой бываюць гульні і скокі. Прынесеныя, дажыначны сноп і вянок заховываюцца ажно да новага жніва.

У матывах жніўных песьняў выяўляецца вялікі цяжар жніўнай працы. Жнейкі, над якімі стаяў панскі цівун з нагайкай, жалі чужое жыта, як кажа народная пагаворка: „ад цямна да цямна—без адгібу“, дык нічога дзіўнага, што такая прыгоньніцкая праца выклікала песьні цяжару, гора і нявольніцтва. Вось фрагмэнты песень, якія паўсталі на неабсяжных прасторах панскіх палёў:

„Ой мы жалі, жалі,
Да нямнога пажалі
Да ста коп да абеда
А другую да палудня
А трэцюю да вячэры ..“

Або йшчэ больш яскрава выказываецца няволя:

„Сьцюдзёная раса пала,
Пусьці мяне дамоў, пане;
Мае домы далёкія
Пераходы вялікія...“

Мала таго, што цэлы дзень працуюць „без адгібу,“ але і падвечар пан не дае дыхнуць — ён паграажае:

„Да ўжо вечар вечарэе,
Пан наш млоды весялее,
Па пастаці паяжджае,
Свае жнейкі прыганяе:
„Жнеця, жнейкі, жнеця,
Самі сябе ні пазьнеця,
Майго каня варанога,
Міне, пана маладога“.

Далей, у жніўных песьнях можам знайсьці высока-мастацкія народныя творы, з прыгожымі мастацкімі малюнкамі; сымболіка і пэрсоніфікацыя, (увасабленьне) займаюць амаль першае месца. Ня мала месца ў рэпэртуары жніўных песень займаюць і песьні жартаблівага характару, і пахвальных рэцытаваньняў для гаспадара і гаспадыні (пана, пані, паніча, паненкі)

Памінаньне казла, або казьлінай барады ў жніўных песьнях і абрадах, пазваляе думаць вучоным Потэбню і Маннгардту, што народнае павер'е мае тут на ўвазе нейкую істоту, падобную да казла, якая „ёсьць душой нівы,“ апякуном жытніх палёў, як напр. Фаўн і Сільван. І гэтая-ж „душа нівы“ з апошнім снапом—„бабаю“ прыносіцца ў дом гаспадара.

У песьнях казёл так успамінаецца:

„Сядзіць казёл на мяжэ
Дзівуіцца барадзе...“

Падобнага характару жніўных песень ёсьць даволі многа.

У жніўных песьнях успамінаецца „рай,“ „рой,“ „раёк“ і т. п. Здаецца, што маем тут выключна сутычнасьць з паняцьцем рою, а ня раю. Рой — гэта пчолы, а рай — неба. Рой працавітых пчол мае быць сымболем працавітых жнеяк. У песьнях так чуем:

„Ішоў раёк, дарогаю шырокаю. .“ і т. д.

Спатыкаем у жніўных песьнях словы „спорыш.“ Ёсьць гэта увасабленьне багацтва, ураджаю.

Закончываючы гэтую кароткую зацемку аб жніўных звычаях і абрадах, скажам іншымі славамі чым акад. Карскі—ён аб жніўных песьнях так сказаў: „от них вет довольством, теплотой летнего вечера і ароматом только что сжатой нівы...“ А мы закончым такімі славамі: „У жніўнай песьні мы чуем глыбокі і цяжкі стогн, выходзячы з худых грудзей паняволеных панамі галодных людзей, працуючых вякамі на пана і падпанка. Мы чуем у тэй мэлёдыі скаргу і бунт мільённых рабоў. Гэная песьня пяецца ня толькі на неабнятых панскіх абшарах: пяецца яна і на вузенькай ніўцы селяніна, якога доля ня лепшая ад панскага найміта.

**Апанас Пагоскі.**

# Achviara pracy.

Byŭ soniečny letni dzień. Ciopła i pryhoža... Pyšna irdziełasia zieleń liścia i travy.

Srybna-siniaj istužkaj biehła, zijajučy i pieralivajučysia na soncy, svaimi niestrymana-razhonnymi chvalami šyrokaja rečka.

Na vysokim bierazie raśkinuŭsia vializarnymi jarusami spłaŭny rum. Zdaloku vyhladaŭ jon, jak vialiki murašnik.

Usiudy kipić praca i ruch. Ludzi—muraški płyciać płyty. Zvonka łunaje nad pracujučaj hramadoj śmiech, viasioły huł i družnaja pieśnia.

A ŭ biazdonnym błakicie letniaha nieba, zvonka padpiavajučy, źviniać žaŭruki.

Vializarnymi radami, šyraka raśkinulisia pa bierazie, ahramadnyja jarusy stromkaha, jak struny, sąśniaku. A za im, jašče bolšyja rady asiny, biarozy i volchi.

Usiudy muraški — ludzi.

Usiudy — zachaplajučy i paryvajučy rytm pracy. I nad usim — daloka niasiecca mahutna-pieramožny voklik:—

Raz! dva! Družna!!!

Dziesiać čałaviek, pa kalena ŭ hrazi, u źniščanych i zbrudžanych hraźziu vopratkach, z razharnuŭšymisia ad pracy vačyma, družna kociać kałami „puzatuju babu,"—heta[?]metrovaj hrubaści, daŭhaja, kryvaja asina.

Voś jana źlataje sa šluhi i z razhonu bje svaim „puzam" pa raskałočanaj, jak zacirka, hrazi.

Hraź zalivaje ŭsich.

Adkazam — viasioły uzryŭ śmiechu.

U mokrych, hibkich rukach źvinna zamilhali dvuch-metrovyja kały. U pavietry družna i rezka paniasłosia:

Raz! Dva! .Try — biary!!!

Śpiełaj višniaj čyrvaniejuć naprużanyja tvary. Hnucca hrubyja kały... Jašče adzin macniejšy vysiłak i mahutnaje — Družna!!! I vializarnaje „puza" „baby", pavoli padyjmajecca, jak niejkaja pačvara, z hrazi. I pad družny kryk hramady; uźjaždžaje znoŭ na šluhi.

Voś jana ŭžo na samym bierazie.

Jašče adzin mocny vysiłak. Jašče adno praciažna-družnaje — Raz! Dva! Try!!! — i puzataja babula, jak šalonaja, skačučy svajej kryvinoj pa stromkim bierazie, lacić u vadu, padniaŭšy vializarny fontan, na mih nyraje ŭ vadu i paśla tapielcam uspłyvaje navierch, dzie ŭ jaje prahavita ŭpivajucca vostryja basaki i źniavolenuju viaduć da rastučaj „huski," takich samych vołataŭ, jakija pakorna stajać skutyja mocnymi putami, katoryja tak umieła na ŭsio i ŭsich lubić nakładać dušy ŭładar — Čałaviek.

Ja z Alesiam pracavaŭ na zadzie. Stajali my na „hus-

cy," pryviazanaj da kusta i prybivali hetych vołataŭ da daŭhich, vitych bihunoŭ.

My abodva, amal całkom, byli mokryja. Nas časta, z noh da hałavy, zalivała vadoj, pad družny śmiech z bierahu.

Vasil, z dvumia druhimi chłapcami, padvodzili basakami nam hetych „babul."

Unizie, kala samaj vady, ad pratoranaj šluhami darohi dla skočvańnia lesu, było vializnaje, razdryhvieŭšaje, kryničnaje miesca.

I voś adna takaja, kryvavaja babula źmianiła, ŭ šalonych padskokach, svoj kirunak. I jak raźjušany źvier kinułasia z hary ŭ bok, jakraz na stajaŭšych, tam, z basakami troch chłapcoŭ, pamiž jakimi byŭ i Vasil —

— Uciakajcie! Uciakajcie!!! — kryčeli da niaprytomnaści na ich z bierahu.

Ratunku nia było.

Na ŭsich dychnuła ledzianaje dychańnie śmierci.

Raptam chłopcy, jak pa zahadu, uzmachnuli šastami basakoŭ... i ich cieła milhnuła ŭ pavietry.

Dvoje daskočyła da vady i papłyli pa burlivych chvalach raki. Vasil mieŭ karaciejšy šost i stajaŭ krychu dalej ad raki, — šlopnuŭ i zaviaz u kryničnaj dryhvie.

Darma jon rabiŭ vysiłki vydastacca.

Dryhva mocna trymała svaju achviaru.

Mih i na jaho naskočyła, u šalonym razhonie, vołat-asina.

Jašče mih — i Vasila nia stała.

Usia vada i hraź krynicy zachvarbavałasia kroŭju.

A kali źbiehlisia ludzi i vyciahnuli z dryhvy Vasila; jon užo nia žyŭ. Z rotu, nosu i vušej na raskałočanuju hraź krynicy uściaž ciakła jašče, jarka-čyrvonaj istužkaj, čystaja kroŭ.

Zacich viasioły rytm pracy

Zmoŭk hučny huł i družnyja pieśni.

Z usich kancoŭ ruma, źbiahalisia spałochanyja ludzi i biazmoŭna źbivalisia ŭ ščylnuju taŭpu, naŭkoł akryvaŭlenaha i złamanaha cieła Vasila.

Jak małoje dzicianio, cicha płakaŭ Aleś. *M. Mašara.*

---

## Čamu sabaka breša na miesiac?

Mnoha kaho cikavić, čamu sabaka ŭnočy, kali śviecić miesiac, tak dziŭna i žalasna breša?

Cikaviła heta i vučonych. I tak, hienijalny pryrodnik Karol Darvin, zvaročvajučy na heta ŭvahu, zhadžaŭsia z pahladam niekatorych vučonych, što pry śviatle miesiaca fantazija sabaki, pabudžanaja niavyraznymi formami akružajučych jaho pradmietaŭ, vyklikaje ŭ jaho dziŭnyja fantastyčnyja abrazy. Ale Darvin nie razrožniwaŭ źviaroŭ z dobra raźvitym niucham, ad tych, što majuć raźvity naŭpierad zrok.

Treba viedać, što ŭ pryrodzie panuje aščadnaść, ekanomija. Niamašaka źviara, jaki mieŭ-by rohi i razam z tym

vostryja zuby. Nivodnaje poŭzajučaje stvareńnie nie patrapić dobra biehać, a biehajučaje — dobra poŭzać; źwiary majučyja silny zrok, nie patrapiać dobra niuchać, a dobra niuchajučyja nie patrapiać dobra vidzieć.

Čym lepšyja vočy, tym horšy nos; čym lepšy nos, tym horšyja vočy — takoje prava pryrody.

U sabaki hałoŭnym zmysłam jość niuch, jak u kata — zrok. Vyniatkam pamiž sabakami jość chart, katory dobra čuje i dobra vidzić, ale zatoje maje słaby niuch. Tłumačycca heta tym, što nasavyja mušli nie mahli dobra raźvicca ŭ jaho šyłavataj mordzie, a hetym samym i niuch nia moh dajści da tak vysokaha raźvićcia, jak u inšych sabak. Dy j niuch jamu zusim nie patrebny. Chart dahaniaje svaje achviary dziakujučy skoraści svaich noh, ale kab moh jaje dahnać, musić pierš pabačyć. Pry takim stanie spravy dobry niuch byŭ-by dla jaho ŭžo zbytkam — a pryroda aščadnaja!

Sabaka zaŭsiody kirujecca nosam. To jon jaho padyjmaje ŭ haru i niuchaje, łović kirunak vietru, to apuščaje jaho da ziamli, šukaje śledu i jdzie im.

Što niuch zapraŭdy maje vialikaje značeńnie dla žyćcia sabaki, havorać ab hetym dośledy Biffi'eha i Schiff'a. Hetyja daśledčyki jašče ščaniatkam — sysunkom pierarazali niuchavyja nervy. Paśla hetaj aperacyi ščaniaty, na vyhlad zdarovyja, poŭzali pa hniaździe, ale da vymja svajej matki nie mahli ŭžo trapić i treba było ich karmić pry pomačy šprycy. Matku raspaznavali tolki dotykam; prabavali ssać voŭnu na aviečaj skury, a padrosšy, nie mahli trapić da hniazda nie razroźnivali miasa ad chleba. Tamu, što korm paznavali tolki zrokam, davalisia lohka ašukać. Ciaplinia i vohkaść danaha pradmietu najčaściej uvodziła ich u pamyłku — suchoha miasa nie datykalisia, a jznoŭ ža źlizyvali sobskuju maču. Mocnyja pachi na ich nia dziejali, paśla amonjaku i eteru čchali daŭžejšy čas, ale značna paźniej jak zdarovyja sabaki. Užo zusim vyrosłyja nia mieli nijakaha pryviazańnia da haspadara.

Sabacy nie pieraškadžaje ciemnata, imhła, śniežnaja zaviarucha, tumany pyłu, nieprazrystyja pradmiety, jakija prapuščajuć pavietra, hustyja lasy. Ale zatoje praciŭny viecier, biazvietranaja cišynia, choład, vada, nieprazrystyja pradmiety biaz nijakich ščylin buduć užo dla sabaki pieraškodaj. Heta ŭsio vypłyvaje stul, što hałoŭnym orhanam sabaki jość nos, a zmysłam — niuch.

I jašče adno — viaskovy sabaka maje lepšy niuch, čym sabaka z miesta. U sabaki miestavaha ŭžo asłableny niuch roznymi pachami z kramaŭ, aptekaŭ i h. p. časta da takoj stupieni, što ŭ poli nadychodzić taki sabaka na kurapatki źniačeŭku i kurapatki ŭciakajuć jamu spad nosu.

Ciapieraka vierniemsia da cikaviačaha nas pytańnia — čamu sabaka breša na miesiac? Pračytaŭšy hetyja ahulnyja

ŭvahi možam skazać, što sabaka—źvier z pachodžańnia chižny — starajecca paznać kožny pradmiet, jaki źviernie jahonuju ŭvahu, kab daviedacca, ci nia hodzicca jon da jady.

Adnosna-ž zdaloku śviecіačaha miesiaca sabaka znachodzicca ŭ asablivym pałažeńni. Daloki miesiac dzieić na vočy, ale na niuch, jaki ŭ sabaki najlepš raźvity, zusim nia dzieić. I dla sabaki hetaja reč taksama prykraja jak i dla nas, kali my čujem jak chtości viadzie hutarku, ale jaho nia možam bačyć. I tamu sabaka breša na miesiac.

Hety adkaz nia peŭny, ale praŭdapadobny. *M. Karalenka.*

---

# Сьвята Украінскае Моладзі

## ў Станіслававе

29 і 30 чэрвеня сёлета ў Станіслававе адбылося Сьвята Украінскае Моладзі, якое арганізавалі: Т-ва „Просвіта“, „Сокіл“, „Сільський Господар“, „Каменярі“, „Союз Українок“, „Український Спортовий Союз“ і коопэратыўныя ўстановы.

У першы дзень сьвята адбыўся зьезд моладзі з Станіслававаўшчыны, у якім прыймалі ўчасьце 640 дэлегатаў ад 400 арганізацыйных адзінак.

Зьезд адчыніў др. Ю. Олесьніцкі, які на старшыню Зьезду запрасіў дыр. інж. А. Палія. Пасьля былі прывітаньні. Па прывітаньнях было прачытана 6 рэфэратаў: 1) рэфэрат чытаў М. Дужы на тэму: „Духовае выхаваньне нацыі і моладзь“, 2) др. К. Коберскі: „Коопэратыўная ідэя“, 3) мгр. І. Гладка: „Жаноцтва і маладое жаноцтва ў грамадзкай працы“, 4) інж. А. Палій: „Фізычнае выхаваньне моладзі“, 5) др. Е. Храплівы: „Сельска-гаспадарчае выхаваньне моладзі“ і 6) др. Я. Хмілеўскі: „Барацьба за новы лад на вёсцы“.

На заканчаньне Зьезд прыняў рэзалюцыі, у якіх, між іншым, заклікае ўсю украінскую моладзь даваць адпор на варожы наступ проці украінскага народу, працаваць на карысьць свае нацыі, а так-жа над самаўзгадаваньнем і самаасьветай.

Увечары адбылося прадстаўленьне.

На другі дзень Сьвята — 30.VI. — раніцай адбыўся малебен, а пасьля дэфіляда-паход учасьнікаў Зьезду ў ліку 2,964 асоб перад прэзыдыюмам і камітэтам Сьвята, якой прыглядалася каля 6000 асоб. У часе паходу іграла 6 аркестраў, а пасьля паходу хор з 139 асоб пад кіраўніцтвам Л. Крушэльніцкага прасьпеваў песьню „Мы моладзь“.

Сьвята закончылася спартовымі іграмі і гімнастычнымі папісамі, у часе якіх ігралі аркестры і выступаў хор.

Сьвята Украінскае Моладзі ў Станіслававе ёсьць найлепшым доказам, што лепшая будучыня Украіны не загарамі, бо ўкраінскі вызваленчы рух з кожным днём магутнее і расьце новае, маладое пакаленьне, якое сьведамае свайго заданьня будзе змагацца за незалежнасьць Украіны аж да аканчальнае перамогі!..

**Я—к.**

# Z vydavieckaj nivy.

**Zahranica ab Biełarusach.** Niadaŭna ŭ Vienie (Aŭstryja) vyjšła kniha Herberta v. Truherta p. n. *„Völkerbund und Minderheiten — Petitionen, ein Beitrag zum Studium des Nationalitätenproblems“* i adbitka z niamieckaha časapisu *„Nation und Staat“*, u jakich, pamiž inšym, apisany padavanyja Biełarusami ŭ Lihu Narodaŭ memoryjały i skarhi ŭ spravie pałažeńnia biełaruskaha narodu pad Polščaj. Memoryjałaŭ hetych, na praciahu času ad 1922 da 1935 h. było 8 i nažal, nivodzien z ich nia byŭ vyrašany na karyść Biełarusaŭ.

Niadaŭna tak-ža Narvežskaja Akademija Navuk vydała vialikuju knihu viedamaha narvežskaha vučonaha Ch. S. Stang'a, jaki ŭ 1932 h. byŭ u Zach. Biełarusi, ab biełaruskaj uradavaj movie ŭ Vialikim Kniastvie Litoŭskim. Kniha maje nazoŭ: *„Die Westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen“* i u joj jość mnoha cytataŭ pabiełarusku.

---

**„Iskry Skaryny“ № 5.** Redahuje i vydaje Biełaruskaje (Kryvickaje) Kulturnaje T-va im. Fr. Skaryny. Praha 1935 h. 86 bač. farmatu 21×29. Adres red. Praha-Dejvice (ČSR), ul. Hanackého pl. čp. 548.

Heta jość apošni numar orhanu biełaruskich emihrantaŭ u Čechasłavaččynie, zhurtavanych u Biel. T-vie im. Fr. Skaryny.

Źmiest № 5 „Iskraŭ Skaryny“ bahaty, cenny i vytrymany ŭ duchu niezaležnicka-biełaruskim, kulhaje tolki mova. U pieršym artykule: „Adviečny šlach — heta jość šlach Skaryny“ abhavorvajecca trahedyja padziełu biełarusaŭ na ŭschodnikaŭ i zachodnikaŭ, vyraźniej kažučy, na pravasłaŭnych i katalikoŭ. U kancy hetaha artykułu zrobleny zaklik stvarać „svaju ŭłasnuju biełaruskuju nacyjanalnuju formu relihijnaha kultu“. Vyhladaje heta na zaklik tvaryć niejkuju novuju biełaruskuju relihijnuju sektu i dalej dzialicca. Nam zdajecca, što heta nia vychad. Lepš niachaj biełarusy pravasłaŭnyja astajucca pravasłaŭnymi, a kataliki katalikami, ale niachaj usimi siłami starajucca vyrvać carkvu z abojmaŭ rasiejščyny, a kaścioł z abojmaŭ polščyny, z tym, kab jany paśla byli moralnym apiryščam dla Biełarusi, a nie dla rusyfikacyi i polonizacyi biełaruskaha narodu. Pry hetym, jasna, treba ŭsimi siłami staracca zasypać roŭ nienaviści pamiž pravasłaŭnymi i katalikami.

T. Hleba, aŭtor vializarnaha artykułu „što takoje nacyjanał-demokratyzm?“, padrabiazna adkazvajučy na heta pytańnie ścviardžaje, što: „U krainie savietaŭ (u SSRR — r e d.) niama ciapier ni buržuaznaj, ni savieckaj demokratyi; była i jość dyktatura kompartyi i savieckaj biurokracyi“, što „niama volnaha samaaznačeńnia nacyi, bo niama ich volnaje i samastojnaje dziaržaŭnaje samaarhanizacyi, — była i jość hegemonija Rasiei“... Pry hetym dakazvaje, što: „Balšavizm — heta jość admiennaja forma ŭsierasiejskaha vialikadziaržaŭnictva“. Ahułam kažučy

T. Hleba, jak redka chto dahetul z biełarusaŭ, šyroka i hłyboka razhledziŭ u svaim artykule biełaruskaje žyćcio ŭ savietach (u BSSR), raskryvajučy ŭsie sposaby prašledavańnia biełaruskaje intelihiencyi, eksploatacyju Biełarusi Rasiejaj, metady zmahańnia balšavikoŭ z biełaruskimi niezaležnickimi imknieńniami i polonizatarskuju rabotu polskich kamunistaŭ u BSSR.

Bazyl Karuś, u artykule „Na ŭschodzie", abhavarvaje apošnija padziei ŭ Azii i značeńnie ich dla biełarusaŭ. J. Javar, u art. „Pierabudova", piša ab prahramach Stalina, Hitlera, Musuliniaha i Ruzvelta. V. Zacharka piša ab roznych staradaŭnych biełaruskich dakumantach. Dr. T. Hryb dakazvaje pachodžańnie i biełaruskaść biełaruskaha herbu „Pahonia".

Aproča hetaha jość jašče litaraturny addzieł, u jakim źmieščany hymn biełaruskich paŭstancaŭ, napisany Ul. Žyłkaj, niekalki vieršaŭ V. R., vierš P. Bieličanki i pačatak apovieści S. Sitnika. Z hetaha-ž litaraturnaha addziełu daviedvajemsia, što Ul. Žyłka radziŭsia 27.V.1900 h. u v. Makašy ŭ Mienščynie i što ŭ BSSR byŭ vydany zbornik jahonych vieršaŭ p."n. „Z paloŭ Zachodniaj Biełarusi", jaki paśla balšaviki spalili.

Zakončany numar šyrokim ahladam biełaruskaha žyćcia ŭ Zach. Biełarusi, Łatvii, Litvie i BSSR, z jakoha vidać, što Br. Taraškievič — filolog — zamiest pracavać navukova, ličyć u kałchozie kala Maskvy, kolki kožny dzień kury jajok naniaśli dy „hulaje" ŭ „varašyłaŭskija strełki..." — Voś jakuju rabotu dajuć balšaviki biełaruskim navukoŭcam.

Kožnamu biełarusu, jaki cikavicca biełaruskim žyćciom, a asabliva apošnimi padziejami ŭ BSSR, radzim vypisać i pilna pračytać № 5 „Iskraŭ Skaryny" — mnoha skarystaje.

*M. Karalenka* — **Majowy chrušč i sposaby baraćby z im.** Biełaruskaja Ziemlarobskaja Biblijateka № 2. Vydańnie „Samapomačy". Vilnia 1935 h. Bač. 13 Farmat 16⁰. Cana 10 hr.

Heta jość pieršaja praca, vydanaja asobnaj knižycaj pabiełarusku našaha supracoŭnika, maładoha biełaruskaha pryrodnika M. Karalenki, jakoha artykuł drukujem navat u hetym numary «Šl. Moładzi.».

Aŭtor u vyšej nazvanaj knižycy dakładna apisvaje razrodčaść, žyćcio majovaha chrušča, jahonyja hatunki, škodnaść dla našaha ziemlarobstva i raspaŭsiudžanaść ahułam, a asabliva ŭ Zach. Biełarusi. Padaje, pry hetym, sposaby baraćby z chruščami.

Knižyca cennaja i cikavaja dla ziemlarobaŭ, jakim radzim z joju paznajomicca. *j—n.*

*Mikałaj Karalenka* — **Zachodniaja Biełaruś jak abšar faŭnistyčnych dośledaŭ.** Adbitka z časapisu „Studenckaja Dumka" № 1 (15). Vydańnie Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu pry Universytecie Š. B. Vilnia 1935 h. Bač. 8. Far. 8⁰. C. 20 hr.

Adbitka zakranaje halinu, dahetul u Zachodniaj Biełarusi nie čapanuju. Aŭtor adkazvaje tut na pytańnie: što zroble-

na i što treba zrabić u halinie vyvučeńnia faŭny Zachodniaj Biełarusi (faŭna, heta śviet źviaroŭ danaha abšaru). Staranna sabranaja i vynatavanaja navukovaja litaratura da hetaha pytańnia, robić z adbitki infarmatar nieabchodny dla kožnaha, chto pracuje nad faŭnaj Zachodniaj Biełarusi.

Metaj adbitki jość: źviarnuć uvahu našaj intelihiencyi i zaachvocić jaje da navukovaha vyvučeńnia pryrody Biełarusi. Vydańnie hustoŭnaje, mova dobraja, karekta akuratnaja. Adbitka hetaja cikavaja dla kožnaha biełarusa intelihienta, a dla pryrodnika-faŭnisty — nieabchodnaja. *A. L.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Беларусы на выбары ў Сойм і Сэнат сёлета ня йдуць.** 24.VII.1935 г. ў Вільні адбыўся агульны сход Беларускага Нацыянальнага К-ту, на якім пастаноўлена беларускіх кандыдатаў на паслоў ў Сойм і Сэнат не падаваць і агулам у гэтых выбарах у м-цы верасьці 1935 г. ніякага ўчасьця ня прыймаць.

**Суд.** 21.VIII.1935 г. у Віл. Гарадз. Судзе мае разглядацца справа рэд. Я. Найдзюка, абвінавачанага за зьмяшчэньне ў № 9 „Шл. Моладзі" вершаў і корэспондэнцыі, за якія гэны нумар „Шл. Мол." быў сканфіскаваны.

**Др. Эвальд Аммэндэ ў бел. дзеячоў.** Др. Э. Аммэндэ, генэральны сэкрэтар Кангрэсу Нацыянальных Меншасьцяў, якога сталым сябрам ёсьць Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, 22.VII. адведаў некаторых беларускіх палітычных дзеячоў у Вільні, з якімі гутарыў аб справе сёлетняга Кангрэсу Нац. Меншасьцяў, які мае адбыцца 2 4 верасьня ў Жэнэве.

**Беларусы з вышэйшай асьветай.** Сёлета вясной скончылі віленскі унівэрсытэт наступныя беларусы: А. Гаўрылічанка, Т. Тышкевічанка, А. Карнюк, Я. Клагіш, Я. Хвораст і Я. Скурат. У Пазнані скончыў унівэрсытэт беларус А. Аніщчык. — Усіх вітаем і чакаем пры працы.

**Ужо друкуецца Беларускі Адрыўны Календар на 1936 год;** выдаюць яго ў Бел. Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Ул. Манкевіч, Ст. Станкевіч і бел. кнігарня «Пагоня».

**З Б.С.С.Р. Юбілей Я. Купалы.** Сёлета Янка Купала сьвяткуе 30-тыя ўгодкі свае літаратурнае працы. З гэтае прычыны ў Менску ўжо адбыліся і яшчэ будуць адбывацца ўвосені вялікія ўрачыстасьці. М. Клімковіч, пішучы ў „Зьвязьдзе" аб Купале, кажа, што ён рабіў розныя „нацыяналі-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

стычныя абмылкі“, але апошнім часам ён іх ужо ня робе і зьяўляецца найпапулярнейшым паэтам Беларусі і цэлага Савецкага Саюзу і яго творы перакладаюцца на розныя мовы.

**Баркулабаўскі летапіс.** У магілёўскім музэі знайшлі Баркулабаўскі летапіс, у якім падробна апісаны беларускія сялянскія бунты на Беларусі ў канцы XVI ст. супроць польскай шляхты.

**Творы сусьветнае літаратуры пабеларуску.** Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі прыступіла да выданьня ў сёлетнім годзе пабеларуску твораў клясычнай сусьветнай літаратуры. Зданы ў друк „Гамлет“ Шэкспіра і „Жаніцьба Фігаро“ Бомаршэ. Рыхтуецца да друку „Іліяда“ Гомэра, „Фаўст“ Гётэ і выбраныя творы Гэйнэ. У гэтым-жа годзе маюць быць выданы „Рудзін“ і „Дваранскае гняздо“ Тургенева, а так-жа творы ведамага сучаснага францускага пісьменьніка Ромэн Раляна, які нядаўна быў у СССР і якому вельмі моцна падабаліся беларусы.

## 25-cilećcie arhanizacyi polskich skaŭtaŭ

„Związek Harcerstwa Polskiego“ — arhanizacyja polskich skaŭtaŭ — sioleta śviatkavała 25-cilećcie svajho isnavańnia. Z hetaj pryčyny ŭ m-cy lipni, u Spale kala Varšavy, byŭ naładžany vialiki źjezd („Zlot“), u jakim brała ŭčaście kala 30,000 asob moładzi. Byli na im i zahraničnyja hości. Byli tak-ža tam i pradstaŭniki biełaruskich skaŭtaŭ z Vilni, jakija mieli svoj addzielny šałaš, nad katorym pavievaŭ biełaruski nacyjanalny bieła-čyrvona-biełу štandar. Biełaruskija skaŭty na źjeździe hetym niekalki razoŭ piajali biełaruskija pieśni. Choć vystupleńni ich adbyvalisia nie na scenie, adnak ich słuchali sotni asob polskich i zahraničnych skaŭtaŭ, zachoplivajučysia pryhostvam i melodyjnaściu biełaruskich pieśniaŭ. Pry hetym zahraničnyja skaŭty: čechi, madziary, niemcy, estoncy i inšyja adviedvali biełarusaŭ, znajomilisia z imi i raspytvali ab pałažeńni biełaruskaha narodu. Niekatorym z ich biełaruskija skaŭty davali na pamiatku biełaruskija knižki.

## Usiačyna

**U Polščy** 10-ha lipnia sioleta Prezydeut raspuściŭ Sojm i Senat. Novyja vybary ŭ Sojm majuć adbycca 8-ha vieraśnia, a ŭ Senat — 15-ha vieraśnia sioł. Usie polskija apazycyjnyja partyi vybary hetyja bajkatujuć, h. zn. na vybary nia jduć — Daŭhi Polščy na 1-ha lipnia vynosili 4,641,841,000 zł.

**Pamiž Polščaj i Gdanskam** apošnim časam adnosiny vielmi napružylisia. Pryčynaj nieparazumieńnia źjaŭlajucca mytnyja (celnyja) rasparadžeńni abiedźviuch staron.

**U Niamieččynie** hitleraŭcy pačali zmahańnie z Katalickim Kaściołam; pry hetym zavastryli jašče jany tak-ža svaje adnosiny i da žydoŭ.

**Italija z Abisinijaj** da zhody nijak nia mohuć dajści. Kali vybuchnie vajna, dyk Abisinija budzie mieć pomač ad Japonii, mahčyma — ad Anhlii i napeŭna ad usich svaich čornych adnaplamiencaŭ, jakija da hetaha ŭžo pryhataŭlajucca.

**Kitaj** sioleta ŭ m-cy lipni naviedała strašennaja pavodka, u časie jakoj źhinuła bolš 30,000 asob i astałosia biez strachi nad hałavoj kala 10,000,000 asob. Na pačatku žniŭnia m-ca taksama ŭžo była tam pavodka, u časie jakoj tak-ža zhinuli sotni asob. Matarjalnyja straty ahramadnyja.

**Saviecki** latun Levonieŭski vylacieŭ i chacieŭ pieralacieć z Maskvy praz paŭnočny polus u San Francisko (ŭ Amerycy). Lot hety, choć raspačaŭsia z vialikaj pompaj, u prysutnaści kamisara Varašyłava, adnak z techničnych pryčyn nia ŭdaŭsia i Levanieŭski zaviarnuŭ z darohi ŭ Leninhrad.

**U Francyi** ŭ minułym hodzie zhinuła ŭ samachadovych katastrofach 4,737 asob, a ŭ **Anhlii** hinie z hetych-ža pryčyn što tydzień kala 146 asob.

**U Zł. St. Paŭnoč. Ameryki** niadaŭna naličvali 9,252,000 biezrabotnych.

**Nehr** Jesse Owens u Amerycy skočyŭ u dal na 8 mtr. i 13 cm.; druhi-ž uznoŭ nehr u Anhlii prabieh 100 metraŭ u praciahu 10 chvilin (sekund).

**Koń adhryz vucha chłopcu.** U Radohoščy kala Tarnova 7-mi letni pastušok biez patreby ŭderyŭ kijom kania, za što razhnievany koń uchapiŭ jaho za vucha i adhryz jaho. — Dobraja navuka...

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

М. Машары, Я. Вількоўшчыку і А. Стрыбуцю: Адказ высланы пісьмом.

Чапяле: Вершы слабыя, пробуйце лепш пісаць прозай, чытаючы як найбольш беларускіх кніжак.

Лявону Бураломy: Вершы атрымалі, дзякуем, у меру, магчымасьцяў будзем друкаваць.

Януку з Косаўшчыны: Вершы слабаватыя, больш працуйце над імі і над сабой, чытаючы беларускія кніжкі.

В. Хомцы: За добрыя словы шчырая падзяка. Вершы слабаватыя, але паправіўшы будзем старацца надрукаваць хоць адзін. — Вы пішаце, што з 14 вучняў з Наваградчыны, якія вучыліся ў Віл. Бел. Гімназіі, маюць прыехаць далей вучыцца ў ёй толькі двох, а рэшта ідуць у іншыя школы польскія, дзеля таго, што яны „зьненавідзелі Астроўскага" і просіце каб неяк „вырваць гімназію з рук Астроўскага". Вось-жа мы ў гэтай справе нічога зрабіць ня можам, бо гімназія ёсьць школай дзяржаўнай і Школьная Куратория назначае дырэктарам таго, да каго мае давер..

„Гучнаму": Патрэбнага Вам, цяперашняга адрасу Вашага калегі ня можам выслаць, бо ня маем, ранейшы ў мінулым годзе высылалі паштоўкай у Наваградчыну. Весткі аб Дварчаніне і Гаўрыліку праўдзівыя. На выбары беларусы ня йдуць. Можа заложыце там у сябе гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры. „Шл. М." высылаем і чакаем падпіскі.